МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ ПРАБЛЕМ КУЛЬТУРЫ

*Дапушчана
Міністэрствам культуры
Рэспублікі Беларусь*

*У. М. Гром*

# ДУДАРЭНЬКУ-ГАСПАДЭНЬКУ

Рэпертуарны зборнік
для аматараў ігры на дудзе




МІНСК 1999

ББК Щ953.2
Г87
УДК 784,6(=82,6):788.91

Укладальнік **У. М. Гром**, мастацкі кіраўнік фальклорнага ансамбля "Крупіцкія музыкі", заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь

Рэцэнзент **М. А. Казінец,** народны артыст Рэспублікі Беларусь, прафесар, галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча

*Рэкамендавана да выдання рэдакцыйным саветам*
*Беларускага інстытута праблем культуры*

Зборнік змяшчае апрацоўкі народных песень, прызначаных для выканання на вядомым народным інструменце – дудзе.

Рэкамендуецца аматарам ігры на дудзе, навучэнцам сярэдніх і вышэйшых навучальных установ культуры і мастацтва.

*Слушая дуду, невольно переносишься к той отдалённой старине, когда не было ни скрипок, ни гуслей, и только под звуки дуды древние дреговичи и древляне совершали свои игрища, описанные Нестором, с которых "умыкали" себе жён. Настолько своеобразна и дика мелодия дуды.*

Романов Е. Р. Виленский календарь. 1910 г.

Дуда – старадаўні духавы інструмент, распаўсюджаны ў многіх краінах свету. Назва гэтага інструмента ў розных народаў свая: у рускіх – валынка, ва ўкраінцаў – каза, балгар – гайда, французаў – мюзет, эстонцаў – торупіль, армян – паракабзук, немцаў, галандцаў – дудэль-зак.

Першыя звесткі аб беларускай дудзе сустракаюцца ў помніку старажытнабеларускай літаратуры "Аповесці аб трох каралях – вешчунах". У сярэдзіне XIX ст. апісанне дуды зрабіў Н.Анімеле ў зборніку "Быт беларускіх сялян".

На працягу многіх гадоў займаліся вывучэннем гэтага інструмента Е.Раманаў і М.Нікіфароўскі, якія падрабязна апісалі склад дуды і яе функцыі. У наш час гэтую справу падоўжыла прафесар Беларускай акадэміі музыкі І.Назіна ў сваёй кнізе "Беларускія музычныя інструменты", т. I.

Існуе два віды інструмента: усходнееўрапейскі (з адным пішчыкам) і заходнееўрапейскі (з двума пішчыкамі, як у габоя). Часцей сустракаюцца інструменты больш простыя, з адным басуючым гукам, а больш складаныя, якія маюць ад трох і болей басуючых гукаў, у народзе называлі маццянкамі.

Беларуская дуда складаецца з чатырох асноўных частак: скуранога мяшка, драўлянай "соскі", праз якую паддуваецца паветра, перабору "жалейкі", гуку "бурдона". Па вонкавым выглядзе інструмент нагадвае вялікую гусь, у "шыі" якой замацоўваецца жалейка з шырокай адтулінай-рагаўнём знізу, што нагадвае курыцельную люльку. На другім канцы, дзе ў "гусі" хвост, замацоўваецца дудка-рагавень большых памераў і з большай люлькай напрыканцы. Там, дзе ў "гусі" спіна, устаўлена драўляная "соска". Скураны мяшок раней выраблялі з барсука, казы, а пазней – са скуры маладога цяляці. Вельмі важна, каб скура была добра выраблена, была мяккай, не прапускала паветра, а самае галоўнае, магла забіраць вільгаць, якая пры дрэнным вырабе скуры асядае на пішчыкі, і дуда хутка губляе свой строй. Соска, перабор і гук выраблялiся з клёну, пажадана з аднаго і таго ж. Як правіла, усе драўляныя часткі тачыліся на такарным станку, у кожнай з іх на ўсю даўжыню свідраваліся альбо выпальваліся адтуліны. У верхніх частках жалейкі і гуку замацоўваліся пішчыкі, якія даўней выраблялiся з чароту альбо з гусінага

пяра. Сучасныя майстры выкарыстоўваюць пластык, бамбук. Рагаўні для жалейкі і гуку выразаліся з карэльскай бярозы, аздабляліся геаметрычнай разьбой альбо абкладаліся сярэбраным арнаментам і вельмі цаніліся дударамі. Па традыцыі ў сем'ях дудароў рагаўні перадаваліся ад бацькі да сына, унука і г. д.

Жалейка (перабор) мае сем ігравых адтулін, шэсць з якіх выразаюць зверху і адну – ззаду, што ў выніку дае дыятанічны гукарад у памерах актавы.

Строй дуды, для якой падрыхтаваны гэты зборнік, выглядае наступным чынам: жалейка "*Рэ*" першай – "*Рэ*" другой, бурдон "*Ля*" вялікай актавы.



Такім чынам, пры ігры атрымліваецца двухгалоссе з арганным пунктам. На Беларусі дуда выкарыстоўвалася як сольны і ансамблевы інструмент. Яна гучала разам са скрыпкай, цымбаламі, бубнам. Вельмі рэдка дудары ігралі разам, што звязана са строем інструмента,які вырабляўся ўручную, і кожны дудар падстройваў дуду па-свойму. У XVI–XVII стст. дуда гучала ў дамах знакамітых людзей. Без дуды не абходзілася ні адно свята. Яна гучала на ігрышчах, кірмашах, сямейных абрадах, на калядных і валачобных абходах.

У духоўным жыцці беларусаў дуда выконвала важную і разнастайную ролю. З дудой звязаны шэраг народных прымавак і прыказак: "Купіў дуду на сваю бяду", "На дудзе іграць – не поле араць", "Як ад дуды – нікуды". Па сённяшні дзень на Лепельшчыне бытуе прымаўка: "Дудзіш, як дуда кугоньская" (ад назвы вёскі Кугоні). Многія беларускія вёскі і прозвішчы таксама звязаны з назвай інструмента: Дударава, Дудзічы, Дудараў, Дударэнкаў і інш.

Тэрыторыя распаўсюджвання беларускай дуды – Віцебшчына, паўночна-заходняя і ўсходняя часткі Міншчыны, паўночная частка Гродзеншчыны. Напрыканцы XIX ст. дудары становяцца вялікай рэдкасцю, што звязана са з'яўленнем гармоніка, інструмента больш надзейнага і з большымі выканальніцкімі магчымасцямі. Адным з недахопаў дуды было тое, што яна хутка выходзіла са строю, і патрэбен быў пэўны час, каб яе адладзіць. Таксама яна не мела мінорных таноў.

Апошняе выступленне беларускага дудара з Віцебшчыны Івана Гвоздзя адбылося ў Полацку ў 1951 г., аб чым пісала газета "Літаратура і мастацтва" 17 кастрычніка 1951.

Апошнім часам на хвалі адраджэння беларускай культуры, станаўлення нацыянальнай самасвядомасці, асабліва сярод моладзі, праяўляецца вялікая цікавасць да дуды.

Сучасныя беларускія музычныя майстры практычна адрадзілі выраб гэтага інструмента і вярнулі яго да жыцця. Плённа працуюць у гэтым накірунку Усевалад Жукоўскі, Віктар Кульпін, Алесь Лось, Уладзімір Пузыня.

Аўтар прапанаванага зборніка спадзяецца, што матэрыял, уключаны ў яго, дапаможа аматарам цудоўнага старадаўняга інструмента ўзбагаціць свой выканальніцкі рэпертуар і данесці да нашчадкаў водгукі мінулых стагоддзяў.

# Саўка ды Грышка

Калядная песня, запісаная на Гродзеншчыне ў 1910 г. Апошнім часам падаецца як дзіцячая гульня:

*Саўка ды Грышка ладзілі дуду,*
*Павесяліцца, каб прагнаць нуду...*

Мелодыя вельмі падобная на крысмасаўскія (калядныя) песні Заходняй Еўропы.

**Не вельмі хутка**

Дуда

* Бурдон гучыць актавай ніжэй

# А ў лесе, лесе ды на верасе

Валачобная песня, запісаная У.Тэраўскім у Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці. Даўней сярод удзельнікаў валачобных абходаў быў дудар, яму прысвячаліся цэлыя радкі валачобных песень:

*А нашаму дудару – хоць кусок сала...*
*Хоць кусок сала – дуду падмазаць,*
*Каб яна йграла, не залягала.*

**Не вельмі хутка**

Дуда

# Добры вечар, госці

Вясельная песня, запісаная У.Громам у Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці. На вяселлі адным з самых паважаных гасцей быў дудар, ігра якога суправаджала ўвесь вясельны абрад.

*Добры вечар, госці!*
*Просім вас, мілосці,*
*Каб вы пілі,елі,*
*Весяленька сядзелі.*
*Добрыя мыслі мелі,*
*Харошыя песні пелі...*

Паказана гучанне дуды ў верхнім рэгістры.




# Дударэньку — гаспадэньку

Жартоўны дыялог дудара з маладой у дзень вяселля, дзе ён выконвае ролю бацькі, які звычайна падказваў маладой, як сябе паводзіць у час вясельнага абраду. Цікава, што характарыстыка маладой падаецца на памер 3/4, а дудара – на 4/4. Адзін з яскравых прыкладаў, калі дудар пакідаў паддуваць у дуду паветра і падпяваў, а інструмент працягваў гучаць.

Словы песні запісаў А.Рыпінскі, а мелодыю – А.Лось у 1985 г. ад старэнькага музыкі – скрыпача ў г. Вілейка Мінскай вобласці, які чуў гэтую песню ў выкананні сапраўднага дудара.





Ду - да-рэнь-ку - гас - па-дэнь-ку, ужо ж мя-не за-ру-чы -

-лі. Ні-чо - га, ня-бо-га, не бой - ся ні-ко-га, я з та - бо - ю са сва-ёй ду - до - ю.

| | |
|---|---|
| Маладая: | *Дударэньку – гаспадэньку!* |
| | *Ужо ж мяне заручылі.* |
| Дудар: | *Нічога, нябога, не бойся нікога,* |
| | *Я з табою са сваёй дудою.* |
| Маладая: | *Дударэньку – гаспадэньку!* |
| | *А ўжо ж мяне ў клець вядуць.* |
| Дудар: | *Нічога, нябога, не бойся нікога,* |
| | *Я з табою са сваёй дудою.* |
| Маладая: | *Дударэньку – гаспадэньку!* |
| | *А ўжо ж мяне спаць кладуць.* |
| Дудар: | *Паступай,як знаеш, сама розум маеш.* |
| | *Я з сваёй дудою пайду да дому.* |

## Учора лісухна ў госцях была

Жартоўная песня, запісаная Г.Цітовічам у Мядзельскім раёне Мінскай вобласці. Як і ў папярэднім выпадку, песня складзена ў форме дыялогу дудара (заяц) з маладой дзяўчынай (лісухна). Адзін з тыповых прыкладаў песні, якая выконвалася менавіта пад дуду.

**Памяркоўна**

Спевы

Учо - ра лі - сух - на ў гос - цях бы - ла,

*mf*

Дуда

з зай-цам пад руч-ку к до- му і - шла, а ўлез-ла ў нор-ку - ў нор-цы ма-роз,

за-яц-па-га-нец сне-гу на-нёс. Каб я пра-ва-ліў - ся,

*f*

rit.

каб я ў - та-піў - ся, каб я мар - на пра-паў, як я лап-кі аб-тра-саў, аб-тра-саў.

Дзяўчына: *Учора лісухна ў госцях была,*
*З зайцам пад ручку к дому ішла.*
*А ўлезла ў норку – у норцы мароз:*
*Заяц-паганец снегу нанёс.*
Дудар: *Каб я праваліўся, каб я ўтапіўся,*
*Каб я марна прапаў, як я лапкі абтрасаў, абтрасаў.*

## Ах, Мічэк

Твор з "Полацкага сшытка". Танец не мае жанравай характарыстыкі, як і шэраг другіх твораў з гэтага зборніка, у якім сабрана папулярная музыка XVI–XVII стст.

Улічваючы выканальніцкія рэкамендацыі аднаго са складальнікаў "Полацкага сшытка" Н.І.Выграненкі, верхні голас аддадзены флейце, а ніжні – віяланчэлі. Танец мог выконвацца і пад дуду.



**Жартаўліва**

Дуда

*f*

Бубен

## *Скакуха*

Танец з рукапіснага зборніка "Танцы людовы Мінскай губерні" ураджэнца в. Дудзічы Мінскай вобласці, славутага скрыпача і кампазітара М.К.Ельскага. Арыгінал запісу зроблены для скрыпкі.

**Не вельмі хутка**

Скрыпка

*mf*

Дуда

**Хутка**

*f*




# *Ах ты, дудка мая*

Жартоўная беларуская народная песня, запісаная Е.Раманавым у 1909 г. ад дудара ў Дзісенскім павеце Віцебскай губерні. Песня мае некалькі варыянтаў: "Ці не дудка мая", "Я цяцерку пасу" і інш. Даўней ні адзін вясельны абрад на Віцебшчыне і Міншчыне не абыходзіўся без гэтай песні. Вось як гэта апісвае Р.Друцкі–Падбярэцкі: "Калі вясельны поезд нявесты вяртаецца з царквы, госці, што сядзяць у калясе, спяваюць песні, падладжваючыся пад беларускую дуду, якая, не сціхаючы, што ёсць моцы, гудзе сабе ўсю дарогу звычайную манатонную песню:

*Пацяраў я дуду, іх, вох!*
*На паповым лугу, іх, вох!...*

Песня была ў рэпертуары знакамітага беларускага спевака М.Забэйды – Суміцкага.

**Хутка**

Спевы

Скрыпка

Дуда



1. Ах ты,

*mf*

дуд - ка ма - я, ды ух, я! Ве - ся - луш - ка ма - я, ды ух, я! Ве - ся -

*mf* *mf*

лі - ла мя - не, ды ух, я! На чу - жой ста - ра - не, ды ух, я!

*mf* *f*

2. Бы - ло ў баць - кі тры сы - ны, ды

*mf*



ух, я! У-се ж я-ны Ва-сі-лі, ды ух, я! А-дзін ко-ней па-се, ды

ух, я! Дру-гі лап-ці пля-це, ды ух, я! Трэ-ці ся-дзіць на ка-мен-ні,

ух, я! Дзер-жыць ду-ду на ра-ме-ні, ух, я!



3. І-шлі дзеў-кі з я-га-док, ды ух, я! Зай-шлі

*mf*

да нас на та-нок, ды ух, я! Ка-лі лас-ка, ска-чы-це, ух, я! Толь-кі

*mf*

гро-шы пла-ці-це, ух, я!

*f*

1. *Ах ты, дудка мая, ды ух,я!*
*Весялушка мая, ды ух,я!*
*Весяліла мяне, ды ух,я!*
*На чужой старане, ды ух,я!*
2. *Было ў бацькі тры сыны, ды ух,я!*
*Усе ж яны Васілі, ды ух,я!*
*Адзін коней пасе, ды ух,я!*
*Другі лапці пляце, ды ух,я!*
*Трэці сядзіць на каменні, ух,я!*
*Дзержыць дуду на рамені, ух,я!*
3. *Ішлі дзеўкі з ягадок, ды ух,я!*
*Зайшлі да нас на танок, ды ух,я!*
*Калі ласка, скачыце, ух,я!*
*Толькі грошы плаціце, ух,я!*

## У карчомцы

Мелодыю запісаў А.Лось у г. Вілейка Мінскай вобласці. Калі слухаеш твор, узгадваеш гравюру Р.Жукоўскага "Ля беларускай карчмы", у цэнтры якой адлюстраваны дудар. Твор мог трапіць у Беларусь ад скамарохаў, на якіх у сярэдзіне XVII ст. было ганенне. Усім вядомы выпадак, калі расійскі цар Аляксей Міхайлавіч даў загад, каб сабралі ўсе д'ябальскія інструменты і знішчылі. Было сабрана 5 падвод, якія потым спалілі. У пошуках заробку скамарохі пайшлі на захад.

Дыяпазон спеву ў памерах кварты, што сведчыць аб старадаўнім паходжанні твора. У музычнай разыгроўцы праслухоўваюцца інтанацыі знакамітай "Барыні" – танца, які быў вельмі папулярны ў Расіі і Беларусі. Ёсць звесткі, што аўтарам музыкі да танца "Барыня" з'яўляецца наш знакаміты зямляк, першы настаўнік кампазітара М.Агінскага Восіп Казлоўскі, які ў свой час быў дырэктарам імператарскіх тэатраў у Пецярбурзе. А музыку да "Барыні" ён пісаў як да салоннага танца.

Калі чуеш тэкст "У карчомцы": "Як у горадзе – сталіцы цар сасватаў тры дзявіцы...", – дык міжвольна прыгадваеш "Казку аб цары Салтане" А.С.Пушкіна. Апрацоўка разлічана на выкананне песні дударом, калі не паддуваецца паветра ў дуду. Улічваючы асаблівасці мужчынскага голасу (гучыць на актаву ніжэй), кожны інструмент мае свой рэгістр: скрыпка гучыць у другой актаве, жалейка дуды – у першай, голас – у малой, бурдон дуды – у вялікай актавах.



**Умерана скора**

Спевы

Скрыпка

Дуда

*f*

*f*

У кар-чом-цы, у карч-ме рас-ка-за-лі

*f*

*mp*

лю-дзі мнс.

Як у го-ра-

*f*

*mp*

-дзе-ста-лі-цы цар са-сва-таў тры дзя-ві-цы.

*f*



Ад - на доўб - ня - ю ста - я - ла, дру - га кор - чам вы - гля - да - ла,

ну, а трэ - ця ха - ра - ша, для мя - не бы па - ды - шла.

Топ - ну - ла нож - кай, ды дру - гой трош - кі.

Ой, ска - чы, ска - чы на - га, а за ёй ска - чы дру - га.



Ра-зы-шлі-ся ты-я но-гі,

ды па-бег-лі па да-ро-зі...

*У карчомцы, у карчме расказалі людзі мне,*
*Як у горадзе – сталіцы цар сасватаў тры дзявіцы.*
*Адна доўбняю стаяла, друга корчам выглядала,*
*Ну, а трэцяя – хараша, для мяне бы падышла,*
*Топнула ножкай ды другой трошкі.*
*Ой, скачы, скачы, нага, а за ёй скачы друга!*
*Разышліся тыя ногі ды пабеглі па дарозі...*

## Мой міленькі памёр

Жартоўныя прыпеўкі для жаночага дуэта. Запісаў у 1908 г. М.Чуркін у Слонімскім павеце Гродзенскай губерні.

Маладая жанчына распавядае пра дуду, што засталася вісець у каморы ад дудара, які быў яе мужам і памёр, бо быў намнога старэйшы за яе. Згодна з каталіцкай традыцыяй ("Усяго чатыры нядзелі, як на дуды мы глядзелі"), калі прайшло 30 дзён пасля хаўтур, то дуда зноў загучала. Пад яе гукі пайшоў у скокі і малады хлопец, што завітаў да маладзіцы...

**Не вельмі хутка**

Спевы

Скрыпка

Цымбалы

Дуда

*f* *mp*

1. Мой мі-лень-кі па-мёр, па-мёр, у ка-мо-ры ду-ды за-пёр. Ах, ду-ды, ма-е ду-ды, я мла-да ту-ды, сю-ды.

*mf*

2. Уся-го ча-ты-ры ня-дзе-лі, як на ду-ды

*mp*



мы гля - дзе - лі. Ах, ду - ды, ма - е ду - ды, я мла - да ту - ды, сю - ды.

3. Пай - шоў хло - пец па ка - мо - ры, то ў пры - сяд - ку, то ў да - ло - ні. Ах, ду - ды, ма -

- е ду - ды, я мла - да ту - ды, сю - ды.

*f* *f*



9

му - ку се - яць, стаў на ду - ды ве - цер ве - яць. Ах, ду - ды, ма -

- е ду - ды, я мла - да ту - ды, сю - ды. 6. Ста - ла блін - цы

*mf*

*mf*

рас - чы - ня - ці, ста - лі ма - е ду - ды гра - ці. Ах, ду - ды, ма -



-му хлап-чон-ку. Ах, ду-ды, ма-е ду-ды, я мла-да ту-ды, сю-ды.

*Мой міленькі памёр, памёр,*
*У каморы дуды запёр.*
*Ах, дуды, мае дуды,*
*Я млада туды, сюды.*

*Усяго чатыры нядзелі,*
*Як на дуды мы глядзелі.*
*Ах, дуды, мае дуды,*
*Я млада туды, сюды.*

*Пайшоў хлопец па каморы*
*То ўпрысядку, то ў далоні.*
*Ах, дуды, мае дуды,*
*Я млада туды, сюды.*

*Пайшла ў клець ды муку браці,*
*Знайшла дуду, стала йграці.*
*Ах, дуды, мае дуды,*
*Я млада туды, сюды.*

*Стала я ды муку сеяць,*
*Стаў на дуды вецер веяць.*
*Ах, дуды, мае дуды,*
*Я млада туды, сюды.*

*Стала блінцы расчыняці,*
*Сталі мае дуды граці.*
*Ах, дуды, мае дуды,*
*Я млада туды, сюды.*

*Пяку блінцы і пячонку*
*Маладзенькаму хлапчонку.*
*Ах, дуды, мае дуды,*
*Я млада туды, сюды.*

# Журба

Скрыпічны найгрыш запісаў Д.Кудзін ад вясковага музыкі ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці. Тэма вельмі падобная на мелодыю восеньскай песні "Пасціла ўдоўка", якую запісаў А.Ліс таксама на Вілейшчыне.

Адзін з тых рэдкіх выпадкаў, калі дуда гучыць у міноры.

**Павольна**

Скрыпка

Цымбалы

Дуда

Басэтля

**Рухава**

# Юрачка

Старадаўні беларускі танец. Мелодыю запісаў Г.Цітовіч ад былога ўдзельніка ансамбля Ігната Буйніцкага Івана Куклінскага ў Шаркоўшчынскім раёне Віцебскай вобласці. Звычайна танец выконваўся з прыпеўкамі.

Жыва

Скрыпка

Цымбалы

Дуда

Басэтля

*pizz.*

*mf*

*f*

*arco*



# Мікіта

Старадаўні мужчынскі беларускі танец, у якім хлопцы спаборнічалі паміж сабой, скачучы цераз палкі. Прыпеўкі да танца запісаў Г.Цітовіч у Паставскім раёне Віцебскай вобласці:

*На дудзе Мікіта грае,*
*А мядзведзь яму спявае,*
*Мікіта, Мікіта,*
*Так і гэтак, Мікіта.*

Склад інструментальнага ансамбля: дуда, скрыпка, цымбалы, басэтля.

**Хутка**

Скрыпка

Цымбалы

Дуда

Басэтля

# Кругавая

Старадаўні беларускі танец. Твор узяты з фартэпіяннай сюіты "Беларускае вяселле" беларускага кампазітара XIX ст. Антона Абрамовіча, ураджэнца Віцебшчыны. У аснове сюіты – сюжэт вясельнага абраду, што абумовіла выкарыстанне мелодый народных песен і танцаў, інтанацыйных зваротаў, уласцівых беларускаму фальклору. Вось як апісаў "Кругавую" ў вясельным беларускім абрадзе Р.Друцкі-Падбярэцкі: "Кругавая" – адзін з самых любімых танцаў беларусаў. Малады хлопец, знайшоўшы прыгожую дзяўчыну, бадзёра становіцца на сярэдзіну круга, папраўляючы пояс. Чуюцца гукі дуды, і танцор спрытна абхоплівае стан маладой дзяўчыны, паварочвае і перакідвае яе ў такт гэтай дуды і скрыпкі, прытупваючы абцасамі і прыпяваючы вершаваныя двухрадкоўі. Танцораў цэлы рад. Першы ў радзе выдумляе фігуры, якія дакладна паўтараюць астатнія. Кружацца ў адзін бок да таго часу, пакуль могуць, потым кружацца ў другі бок; увесь час мяняюць рукі і позы, як у даўнейшым паланэзе.

Нягледзячы на тое, што танец жывы і рухавы, усё ж ён сумны, таму што аднастайны".

**Жыва**

Скрыпка

Цымбалы

Дуда

*f*

Капшук
Бубен

Басэтля

# Шастак

Старадаўні масавы беларускі народны танец. У Вялікім княстве Літоўскім шастаком называлася дробная разменная манета, што і абумовіла з'яўленне танца пад такой назвай:

*Шэсць дзён малаціла, шастак зарабіла,*
*А за таго шастака закупіла мужыка.*

Мелодыя танца дайшла да нашых часоў. Так, у 1963 г. яе запісаў на Віцебшчыне Л.М.Фёдараў, а ў 1977 г. у Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці ад С.І.Стральцова былі запісаны прыпеўкі да танца. Музычная апрацоўка зроблена да пастаноўкі танца ў ансамблі "Крупіцкія музыкі". Пры выкананні партый скрыпкі і альта трэба звярнуцца да сурдзіны, імітуючы гучанне віёл.

**Стрымана**

Флейта
Скрыпка
Альт
Дуда
*f*
Званы
Бубен
Вялікі барабан
*Вялікі барабан*
*mf*
Кантрабас



simile

simile

simile

* Пры змене рухаў смык са струн не здымаецца ў скрыпкі, альта, басэтлі.



# ЗМЕСТ